Іскры Ільіча

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ.
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ГОД ВЫДАННЯ 5. СНЕЖАНЬ 1933 № 16.

# ЯК мы ВУЧЫМСЯ

У нашай 2—I групе 45 вучняў.

Каб лепш усе вучыліся, мы заключылі дагавор на соцспаборніцтва з 2-II групай нашай школы. У дагаворы мы ўзялі на сябе такія абавязкі:

быць дысцыплінаванымі,
лепш вучыцца,
захоўваць чыстату.

Ёсць у нас вучні зусім недысцыплінаваныя. Напрыклад, Астроўскі амаль кожны дзень прыходзіць на другі ўрок. Яму дванаццаць год, а ён яшчэ толькі ў другой групе: і ўсё праз гультайства.

Таксама зрываюць вучобу і такія вучні: Лаксін, Інберг, Ісаеў. А Марголін, дык заўсёды лаецца.

Але ёсць у нас і ўдарнікі. Іх адзінаццаць. Лепшыя з іх: Гохштэйн З., Палер Я., Шчэцін, Галінсон, Швабоўская, Фрыдман, Васіленка. Усе яны дысцыплінаваныя, самі добра вучацца і дапамагаюць слабейшым.

Наша група падпісалася на пазыку на 160 руб. Выплацілі ўжо 120 рублёў.

Мы стараемся добра вучыцца.

ГОХШТЭЙН, ПАЛЕР, ШЧЭЦІН

2-я ФЗД, Менск.

# НА ПЕРАПЫНКУ

З песнямі і крыкам —
Адпачыць пара!—
Выбегла са школы
Дружна дзетвара.

Скачуць, нібы зайцы,
Па калені ў снег...
Нехта паваліўся —
Смеху цэлы мех!

А учора Янка
Доўга працаваў —
Цэлы дзень старанна
Горку будаваў.

Палілі вадою,
Змацаваў мароз...
І сягоння санкі
Хто хацеў прывёз.

Колькі тут забавы
На гары крутой!
Весела на санках
Зімняю парой.



М. БАГУН

# ЯНКА РЫЖЫК—

## ВАЖНЫ ЛЫЖНІК



Ўсё знікае ў снежнай белі,
Снег зямлю як пухам сцеле...
З маладымі маразамі
Па палёх гуляе замець.

---

Янка Рыжык
Зладзіў лыжы,
Ў рукі ўзяў кіі,
Зглелзеў хлопцаў
Пад гарою
І памчаў да іх.

Янку сушыць
Вецер вушы,
Твар пячэ агнём.
Што там—вецер,
Калі дзецям
Цёпла зімнім днём!

Вось за Янкам
Ў лёгкіх санках
Мчыць яго сястра.
Ад пагоні
Снег аж звоніць,
Ажно глянуць—страх!

Янка чуе:
Тут, рагоча...
(„Падаб'е цяпер!“)
Але-ж гэтага
Не хоча
Янка-піонер!

Ды, ураз,
Паддаўшы ходу,
(„Дагані-ж мяне!“)
Стукнуў лыжамі
Ў калоду
І—зарыўся ў снег...

Смех і гора.
Янку сорам:
Лыжы—папалам...
Хлопцы ў рогат.
Хлопцаў многа
І сястрыца там...

— Ах, і едзе!
— Ну і едзе!—
(„Смешкі ім!“)
— Пастой!
А бадай цябе
Мядзведзі
З гэтакай яздой!

А пасля
Шумлівым роем
(Гоман, смех і крык)
Зніклі дзеці
Пад гарою—
Толькі пыл курыць..

І тады
Сказаў ім Рыжык,
Трасучы кажух:
— Як зраблю
Другія лыжы—
Я-ж вам пакажу!..




*Апавяданне* МАМІНА-СІБІРАКА
*Малюнкі* ТІХАНОВІЧА

**Б**ыла дзіўная раніца. Я вышаў у школу сёння раней і даведаўся, што рэчка стала, пакрылася лёдам.

Гэта вестка вельмі абрадавала школьнікаў. Мы памчаліся к рэчцы бягом. Рэчка была пакрыта бліскучым лёдам, нібы люстрам.

— Ах, які лёд!..—крыкнулі мы ўсе разам.

К рэчцы беглі яшчэ хлопцы з другіх вуліц, як на свята. Былі тут і вучні са школ, і проста дзетвара, якая не хадзіла яшчэ ў школу.

Радасным крыкам загаманіў бераг. На лёд паляцелі кійкі і каменні.

— А лёд тоўсты ўжо,—заявіў Паўлік Селіванаў, хлопчык з нашае групы.

Для праверкі Паўлікавых слоў мы кінулі некалькі цаглінак, і лёд не праламаўся. Мы падскаквалі на беразе ад радасці.

— Калі лёд трымае цагліну, дык, значыць, можна па ім хадзіць,—прагаварыў Косцік Рабаў, таксама наш таварыш.

— От, каб былі канькі...—пашкадаваў хтосці.

— Можна паспрабаваць прайсці па лёдзе і без канькоў,—сказаў трэці.

— А сапраўды, калі-б паспрабаваць...

Нібы ў адказ на гэта пытанне, з другога боку на лёд выскачыў хлопчык у чырвонай рубашцы. Ён з усяе сілы пакаўзнуўся, стоячы на нагах. Гэты прыклад падахвоціў другіх. Услед за першым смельчаком з'явіўся другі, трэці...

— Ды ім добра там коўзацца,— з зайздрасцю гаварыў Паўлік Селіванаў. — Там бераг мелкі. Калі і праваляцца, дык не ўтопяцца...

А наш бераг быў высокі, абрывісты, і рэчка тут была глыбокая. Але ў нас з'явілася шчаслівая думка: прайсці па лёдзе каля самага берага.

Косцік Рабаў зараз-жа паспрабаваў праверыць, ці моцны лёд. Лёд вытрымаў.

— Вы паглядзіце адно — лёд які тоўсты.

Мы бегалі па рэчцы, каля самага берага, і ўсё выходзіла добра. Хоць дзе-ні-дзе лёд трашчаў і на ім выступала вада, але мы не зважалі на гэта.

— Гэта тонкі лёд толькі каля самага берага, а пасярэдзіне рэчкі ён зусім тоўсты, — падаў нехта думку.

— Гэта заўсёды так бывае...

Каму першаму прышла гэта думка ў галаву, трудна сказаць.

Калі мы былі ўжо на сярэдзіне рэчкі, хтосці з нас упаў, на яго кінуўся другі, і лёд не вытрымаў нашага цяжару. Спачатку ён моцна трэснуў, а потым пачаў апускацца, і мы ўсе ўтраіх неяк



— Тонімся! Ратуйце!

адразу апынуліся па горла ў вадзе. Наш крык быў чуваць далёка, далёка...

На апамогу з'явіліся дошкі і вяроўкі. Нехта страшна крычаў і з усіх бакоў беглі людзі—мужчыны, жанчыны, дзеці.

— Топяцца! Рату-уйце!

Усё здарылася так раптоўна, што трудна было ў чым-небудзь разабрацца. Ад страху мы нават не адчувалі, якая халодная вада. Мы дарэмна чапляліся рукамі за тонкі лёд, які тут-жа ламаўся, нібы сухар. Разам з намі плавалі ў вадзе нашы шапкі. І тым, хто быў на беразе, здавалася, што топіцца чалавек дзесяць.

Мы ўжо выбіваліся з сілы, калі да нас па лёдзе, трымаючы вяроўкі ў зубах, падпоўз рабочы. Ён падаў нам доўгую дошку, за якую мы ўхапіліся зледзянелымі пальцамі.

Доўга пасля мы праляжалі ў бальніцы: прастудзіліся вельмі.

## ЧАМУ МЫЕЦЦА ЯНКА?

*Верш М. КАЛАЧЫНСКАГА*

Кожны раз у восем зранку
Устае з пасцелі Янка.

Ложак жыва прыбірае,
Ўсё як след ён аглядае.

Возьме мыла і ідзе
К рукамыйніку—вадзе.

Вушы, рукі, твар і шыю
З мылам чысценька памые.

А таксама вельмі любіць
Парашком пачысціць зубы.

Запытаеш часам Янку:
— Чаму мыешся уранку?

— Бруд і розныя мікробы
Заражаюць нас хваробай.

Каб здаровым заўжды быць,
Трэба нам з вадой дружыць.



# два кастры

*Апавяданне С. БАРАНАВЫХ*
*Малюнкі А. ШАХРАЯ*

I.

У Мішынай хаце нікога няма. Адзін дзед Даніла сядзіць каля стала. Бараду сівую сваю падпёр даланёю, кідае зірк праз акно на вуліцу і чакае: а ці не ідзе з піонерскага атрада ўнук Міша?

Але не відаць яго, не ідзе.

— От-жа раздураны...

Дзед ведае свайго ўнука: ён і не раздураны, але сумна дзеду без яго. Данілу ўжо шмат гадоў і слаб ён, каб дзе хадзіць, а Мішу — мала гадоў і ён усюды ходзіць. Але дзедавы гады дружна жывуць з Мішынымі гадамі.

Яны адзін без аднаго не могуць доўга быць. Міша карову гоніць калгаснаму пастуху, пакідае дзеда аднаго і кажа:

— Дзедка... я скора прыду.

Даніла вочы слязлівыя жмурыць—глядзіць на Мішу і скрозь ружовы смех на твары адказвае:

— Не ба-айся-ж, унучак.

Толькі калі ў атрад Міша ідзе, Даніла нічога не кажа. Ён ужо ведае: прыдзе ўнук з піонерскага атрада, дык колькі-колькі нараскazвае! І пра зямлю, і пра тых, хто на ёй жыве. Міша вельмі кемлівы. Ён шмат чаму навучыўся ад важатага атрада, комсамольца Змітра.

І ўсё так добра. Дзед рад Мішынай кемлівасці.

Дзеду цяпер прыходзіць на ўспамінак, як Міша надоечы казаў яму пра зямлю:

„Дзедка, яна-ж круціцца,—казаў Міша.— Зямля, дзе мы жывём — круглая. І яна век вечны круціцца. А сонца—на адным месцы. Зямля кругом ідзе і я з табою, дзед, і ўсе людзі—круцяцца з ёю. А сонца і грэе нас, калі мы каля яго праяжджаем з зямлёю“.

Дзед успамінае Мішына апавяданне, і смех бегае па яго губах. Бо дзеду Данілу толькі-то гадоў, а ў Мішы—жменя гадоў.

І калі ўспамінае ён—думкі ў галаве ўюцца цяпер пчаліным роем. Ён развaжае:

— Не гады вінаваты, а людзі вінаваты. Не навучылі мяне чытаць, пісаць, я і не ведаю, як жыве зямля і як на ёй жывуць людзі.

Калі даведаўся Даніла, што ўнук хоча ў піонеры ісці — не хацеў, каб ішоў. Думаў тады: будзе Міша піонерам і па цэлых гадзінах у атрадзе будзе, а ён застанецца без яго. Але Міша сказаў быў:

— Гэта-ж усёроўна як і школа. Атрад піонерскі вучыць і навуцы і ўсяму.

Пачуў дзед пра атрад-школу і не супярэчыў.

Дзед Даніла праз усё жыццё ганьбіць сваю слепату.

— Ого, каб я грамату ведаў!—казаў Мішу дзед. — З мяне-б нема-ведама хто быў: мажа-б землямер нават,—жартаваў дзед.

А ўчора Міша вучыў дзеда:

— Бачыш, дзед! — казаў Міша, — вось гэта „А“, а гэта „Б“; памятай! „А“—такое, як сталюга. Толькі ў сталюгі — два „А“,— з аднаго боку і з другога. А гэта—„Б“, яно завецца вялікім і яно, як наша печ: з дзіркаю і з палкаю-комінам. А гэта—малое „б“, яно, як апалонік у нашай копанцы, з хвосцікам.

Дзед успамінае як вучыў Міша і ў яго і радасць ад гэтай навукі і боль нейкая ў старых грудзях. Ён рад, што ўнук не будзе ніколі такім сляпым, як ён; а боль у яго, што ён цэлы век свой сляпым быў.

Пазірае дзед Даніла раз-за-разам праз акно, чакае ўсё ўнука. От, каб хутчэй прышоў, каб расказаў другое што, новае.

II

Але неўзабаве прышоў і Міша.

— Дзе-ж ты гэта быў? — аж павесялеў дзед Даніла.

А Міша сур'ёзны такі — у новых штанах і рубашка новая...

— Касцёр рабілі ў соўгасе... Вот. Там-жа электрычнасць і касцёр наш быў з адной электрычнасці.

Дзед не зразумеў адразу: які касцёр? Ён ніколі не чуў пра касцёр і Міша яму не казаў. Дзед счакаў момант — думаў, што дадасць Міша колькі слоў і ён зразумее. А Міша—як наўмысле—маўчыць.

— Які касцёр?!—не стрываў дзед Даніла.— Што вы агонь раскладалі, ці што?

Да сёнешняга для і Міша не ведаў пра касцёр, але ён думаў: дзед вялікі — павінен ведаць.

І Міша не памыліўся: дзед ведаў і тое, чаго ніколі не будзе ведаць Міша.

Міша казаў пра касцёр, а дзед Даніла хмурыўся чамусці.

— ... Важаты казаў нам: касцёр рэволюцыі запалены Кастрычнікам. І ён гарыць і разгарыцца на ўвесь свет. Дзед, мы каля кастра спявалі, у кругу бегалі, у ката-мышку гулялі.

А дзед Даніла яшчэ больш хмурыўся. Аніводнай кроплі не было на яго твары ўсмешкі. А Міша гаварыў:

— ... І яшчэ мы гулялі: я рабочым быў, а Сцёпка — буржуем быў, і нас, піонераў, было шмат рабочымі. Мы спявалі каля кастра:

**Ты гары, гары, касцёр,**
**Разгарыся на ўвесь свет!**
**Дарам рукі распасцёр,**
**Ты, буржуй, ты, дармаед!**

— ... А потым нам давалі кніжкі пра вялікі Кастрычнік. І яшчэ давалі нам, дзед...

Даніла не змоўчаў і перапыніў Мішу:

— Ты кажаш—касцёр. Я цяпер і ведаю... От сказаў ты, а я і ўспомніў і мне цяжка зрабілася.

— Не: ты, дзед, не ведаеш нашага кастра!—засупярэчыў Міша.

Міша хацеў апавядаць, як пачыналі і як скончылі — падрабязна пра ўсё. А дзед насупістым зрабіўся, Міша і змоўчаў. Даніла аб нечым падумаў ды і кажа:

— Я ўспомніў... Гэта-ж, калі я малым быў, мы рабілі касцёр... Ну, гэтак сама агонь

раскладвалі. Дык я вось, як цяпер, памятаю...

Ён паглядзеў Мішу проста ў вочы ды апавядаў:

— Захацелася нам каля агню таксама пагуляць. І мы на панскім выгане запалілі цэлы лом. А тады не можна было без дазволу. Тады-ж была паншчына і ламы былі панскія. А мы—ведама дзеці: запалілі і цераз агонь



Лёкай зламіў мяне, прывёў на вогнішча.

скачам. Хто смялейшы, хто пераскочыць. І не змецілі, адкуль узяўся малады паніч Віктар. (Ог-жа нягоднік быў: такі, як і стары бацька). Дык ён з лесу неяк вышаў з лёкаем... Мы як убачылі—хацелі наўцекі, а ён змеціў і як крыкне: „Не ўцякаць, а то горш будзе“. Мы ўжо і не ўцякаем. А ён падышоў ды на Бладзіка — на майго таварыша: „Ну, пераскоч, а я пагляджу!“ Бладзік скочыў і пераскочыў. А потым і другія за ім. Што нам гэта значыць! А далей захацеў і той паніч пераскочыць. Бізун аддаў лёкаю ды як разгоніцца,—але неяк струсіў. Узбег на вогнішча ды рукамі аб жар і абапёрся. Я тады як зарагачу... А ён саскочыў з вогнішча — рукі трэ, трэ, а я — ніяк не магу суняцца ад рогату. Бачыць ён, што я рагачу, і як раззлуецца ды на лёкая: „Вазьмі яго і на жар! Пастаў босымі нагамі... Сюды, вот сюды!“ Я ў слёзы, цалаваць хацеў у рукі, а ён аж учарнеў ад злосці. Вырваў бізун у лёкая і бізуном яму цераз галаву: „На жар, пастаў, кажу!“ Я хацеў наўцекі, а лёкай злавіў мяне, прывёў на вогнішча і босымі нагамі на прысак...

Дзед Даніла змоўк. Ён цяжка соп і не мог гаварыць. Міша маўчаў, сціснуўшы дух. Але праз хвіліну дзед Даніла дадаў неспакойным дрыжачым голасам:

— Дык вось... цэлы месяц я ляжаў з апухшымі нагамі. І не мог ані ступіць... Ты мне ўспомніў пра свой касцёр, а я табе пра свой. Вось як: і мы жылі, былі дзецьмі, і вы жывіцё...

І Міша цяпер зразумеў: вось чаго ён, дзед, быў такім сумным. Гэта-ж і ў дзеда быў касцёр. Толькі не наш — вясёлы, піонерскі, а панскі — з слязьмі горкімі, з горам...

В. Л. ДУРАЎ

# ЗАЯЦ-БАРАБАНШЧЫК

## 1. ЦІ ДУРНЫ ЗАЯЦ?

Кажуць, што заяц дурны і труслівы. Ці праўда гэта? Не. Заяц не труслівы, а палахлівы. А гэта вялікая розніца.

Заяц нават не ўсякага сабакі баіцца. Ён зусім блізка падпускае да сябе розных каротканогіх сабак. Ён ведае, што ўцячы ад такога сабакі нічога не значыць.

Але-ж не тое бывае з зайцам, калі ён згледзіць ганчака. Тады імчыцца ён з усіх ног, часта скача ў бок і круціцца на месцы, нібы робіць васмёркі. А калі часам трапіцца па дарозе стада, ён смела кідаецца пад авец і кароў, а потым імчыцца зноў.

Для чаго гэта заяц робіць? А для таго, каб замесці след. Сабака бяжыць па сляду. Ён носам чуе зайцаў след. А калі след прапаў, сабака стане.

Значыць і сапраўды—заяц не дурны!

## 2. ЯК ЗАЯЦ СТАЎ СМЕЛЫМ.

Мне ўдалося навучыць зайца барабаніць і страляць з невялікай гарматы. Як я гэтага дабіўся?

Перш за ўсё трэба, каб заяц з палахлівага стаў смелым. Я прывучы[ў] свайго зайца да рук. У гэтым мн[е] памагалі розныя прысмакі для зайц[а]: зялёная салата, салодкая морква.

Як толькі заяц прывык да мяне, пачалася вучоба. Вучыў я так. Да



# ГУЛЬТАЙ ПРЫЧЫНУ ЗНОЙДЗЕ

*Верш С. ШУШКЕВІЧА*

Раніцою дзеці ў школу
Ўсе бягуць гуртом вясёлым.
Па дарозе смех і жарты.
Іх чакаюць ў школе парты.
І настаўнік так паважна
Шмат цікавага раскажа
Пра азёры, акіяны,
Пра нізіны і пра горы;
Пра далёкі край нязнаны,
Што знаходзіцца за морам;
Пра заводы, домны, гуты,
Пра Маскву, пра Менск і Харкаў;
Пра Турксіб такі славуты,
Пра камбайн і пра жняярку.
Але Янка гультаваты
Не выходзіць нават з хаты.

зайцу есці салату, а сам у гэты час асцярожна паднёс да вусатай мордачкі барабан. Заяц перастаў есці, коса і здзіўлена глядзіць на барабан: што за звер такі? Я раблю від, што барабан баіцца зайца, адсоўваю яго. Заяц зноў са смакам храбусціць салату: барабан збаяўся яго!



Такая вучоба цягнулася доўга. Заяц есць смачную салату, а тут барабан! Заяц палахліва глядзіць на яго, або адскочыць, але барабан раптам струсіў і ўцёк ад зайца. Заяц здаволены — барабан яго баіцца! А калі так, дык ён-жа пакажа гэтаму трусліваму барабану, што значыць ён, заяц!

І вось аднаго разу барабан ціха падпаўзае да салодкай моркаўкі. Нарэшце, ён блізка, зусім каля зайца! Ах, які нягодны гэты барабан! Заяц скокнуў і моцна ўдарыў лапкай па барабаннай шкуры. Барабан уцёк. Заяц рад. Ад радасці ён нават завіляў кароткім хвосцікам.

Другі раз заяц ужо смела барабаніў па шкуры—праганяў барабан. Так і навучыўся барабаніць.

Потым я вывучыў зайца цягнуць за вяровачку, да якой прывязаў спачатку моркаўку.

Нарэшце гэту вяровачку я прывязаў да курка маленькай гарматы. Калі заяц цягнуў яе да сябе, гармата страляла.

Дзеці і нават дарослыя пужаліся, а заяц прывык і не баяўся. Пасля кожнага выстрала заяц атрымліваў моркаўку або што-небудзь другое смачнае.

Ну, які-ж ён труслівы пасля гэтага

Кажа: „Холадна і слізка“...
І у школу—ані блізка!
Ходзіць згорблены, сутулы—
Шмат сабралася прагулаў!
Але нават днём пагодным
Ісці ў школу—невыгодна.
Кажа: „Вельмі-ж сёння вецер,
Не пайду ніколі ў свеце“.
Вечна ў гэтага хлапчыны
Для прагулаў ёсць прычыны.
Выдзе сонным ён на ганак
Брудны, сумны і заспаны.

Ён гультай такі пацешны,
Аж курам бывае смешна.
Певень цягне: „Кукарэку!
Янка лодыр і няўмека“.
Нават смехам неўгамонным
Раскрычаліся вароны.
Верабейчык невялікі
Раптам дзіўна зачырыкаў:
„Ой, прагульшчык, лодыр Янка,
Ён не вучань, а гуляка!“
З Янкі ўсюды на пацеху
Поўна шуму, поўна смеху.

ЯКУБ КОЛАС



# ВОЎК І ЛЯСНІК

*Урыўкі з „НОВАЙ ЗЯМЛІ“*
*Малюнкі ТІХАНОВІЧА*

Мароз бярэцца, пацiскае,
Па лесе лускае, гуляе
І хусты тчэ на беражку.
За ноч падкінула сняжку.

Міхал ідзе ў свае абходы,
А холад зімняе пагоды



Яго рухавіць і малодзіць.
І колькі тут разоў ён ходзіць!
Тут кожна сцежка і дарожка
Яму даўно-даўно знаёма.

Міхал у лесе, як-бы дома:
Дзе ні ступала яго ножка!
Якіх куточкаў тут не знае!

Міхал ідзе, сляды чытае:
Вось тут танюткі ланцужок
Лёг так прыгожа на сняжок—
То пара кропак, то дзве рыскі,
Відаць, што мышкіны распіскі.
Другі малюнак, след-трайчаткі
Па лесе кідаюць зайчаткі;
А ліс—хітрэц, выжыга чуткі,
На снезе цягне шнур раўнюткі:
Слядок з слядочкам супадае,
Бы лапка тут адна ступае.

Міхал ідзе. У лесе глуха;
Дарэмна зыкі ловіць вуха:
Вакол маўкліва і маркотна,
І лес застыў, глядзіць гаротна,
І толькі дзесь у ельняку
Шалпоча сойка на суку.

* * *

... Міхал раптоўна садрыгнуўся.
Зірнуў за Нёман і прыгнуўся,
З-за хвойкі пільна выглядае
І дубальтоўку з плеч здымае,
Увесь хвалюецца, дрыжыць:
Ваўчуга з сёл сюды бяжыць
І проста валіць на Міхала!
Аж сэрца ў радасці ўзыграла:
„Пастой-жа, брат, пастой, ваўчуга!
Ужо-ж спаткаю, валачуга!“
А воўк імчыцца, снег здзірае,
І толькі хвост яго мільгае,



Відаць, далі яму дзесь жаху.
„Ну, брат, Міхась, не дай-жа маху!“
Ён брамкі ў стрэльбе адчыняе,
Прыклад падносіць да пляча;
„Не так дасі ты стракача!“
Міхал паціху разважае.

А воўк ляціць. Вось ён на Нёмне...
Вось ён за горкай... Не відаць—
Ён будзе тут хвілін праз пяць..
„Трымайся-ж, браце, цэлься, помні!“
Міхал замёр, не моргне вокам:
Развязка скора, недалёка—
Вось-вось пакажацца звяруга!..
Ды доўга гэта штось натуга—
Няма, а быць яму пара!
Цьфу, ты! Што-ж гэта за мара?

Ўстае Міхал, глядзіць вакола,
Як-бы што страціў, невясёла,
А рукі ўсё яшчэ дрыжаць.
Ну, хоць-бы гада напужаць!
І дзе ён дзеўся? Дзе, пракляты?
Міхала рух бярэ заўзяты,
Не возьме тропу ён ніяк,
Бяжыць управа наўскасяк:
А можа там яго спаткае,
А не, дык снег хоць запытае.

Але й туды прабег дарма:
Там і слядоў яго няма.
Бяжыць назад—няма!—прапала!
Аж нейкі пот праняў Міхала.
Міхал на Нёман тут рвануўся
І як зірнуў, аж здрыгануўся,
І ўсё ў ім раптам задрыжала,
Аж нават шапка чуць не спала,
Калі прычын Міхал дазнаўся:
У стрыжаню воўк шалпатаўся!
Міхала згледзеў—лясь зубамі!
І злосна бліскае вачамі.

Міхал хватае дубальтоўку
І хоча выстраліць у воўка,
А потым стрэльбу апускае
І воўка зблізка разглядае.
А ён—вось тут, бяры рукамі,
Завіс на лапах, як у яме;
Стрыжэнь глыбокі, лёд пакаты,
А бедны воўк, вадой падцяты,
Скрабе па лёдзе кабдзюрамі,



І носам рые, рве зубамі
І ўвесь пружыніцца і рвецца,
Але нічога не ўдаецца.

І ўсё слабее ў воўка сіла,
Ды страшна смерць, усім жыць міла!
Ён рэшту сіл ізноў збірае,
Мацней на лапы налягае,
Ды іх няма за што зацяць,
Яны слабеюць, слізгацяць
І толькі скробаюць па лёдзе,
Перабіраюць край стрыжэні,
Няма надзеі нават ценю
У той яго бядзе-прыгодзе,—
Няма, ваўчок, табе збавення!



Дарэмны ўсе твае імкненні!
І не надоўга сілы стане
Вясці з вадою тут змаганне.

Слабее воўк і абмярзае,
А плынь ўсё болей падбірае...
І, барукаючысь з вадою,
Ён павярнуўся галавою
І ўскінуў погляд на Міхала.
Вачамі злосна ўжо не косіць,
Глядзіць, як-бы ратунку просіць...
Цьфу, ты! Аж шкода яго стала—
Так вочы жаласна глядзяць,
Ну, проста шкода і страляць!

Яшчэ раз бедны воўк рвануўся,
На спіну раптам павярнуўся,
Завыў жалобна і каротка
І—шух пад лёд той, як калодка!
Міхал стаіць і разважае,
А потым голаву ўскідае,
Як-бы ён хоча запытаць,
Хоць тут нікога не відаць:
„Ну, што ты скажаш, брат, на гэта?“



# КАЗКА ПРА АЛЁШКУ-РАЗАНЬ І ДЗЯДЗЬКУ БЕЛАМОРА

Урывак з казкі Л. Касіля*)
Малюнкі В. Тіхановіча

Алёшку-Разань паслалі на Мядзвежую гару. Алёшку паслалі прапруджваць моры. Цягнік павёз Алёшку на Далёкую Поўнач, на халодныя азёры, да цвёрдых скал, у дзікія лясы. Уночы ў вагоне Алёшку прысніўся страшны сон. Яму снілася, што звяры і птушкі імчаліся насустрач, перапалоханыя птушкі і звяры. Палохаліся мядзведзі і беглі ваўкі. Імчаліся лісы і скакалі зайцы. Ляцелі совы і вароны. Вецер дзьмуў ад іх цяжкіх крылляў. „Ратуйцеся, хто можа",—крычалі звяры.—„Ратуйся, Алёшка,—пішчалі птушкі,—ля Мядзвежай гары грыміць страшны гром. Каменні валяцца з хмараў. Рэкі ўстаюць дубка. Скалы хістаюцца, як малочныя зубы. Расступаюцца лясы. І зямля ўзлятае да неба".

Алёшка напалохаўся і траха не прачнуўся. Але тут пачуў вясёлы голас:

— Не бойся, Алёша! Не слухай труслівых. Смела едзь уперад, прапрудзі моры. Праклaдзі сабе чэсны шлях і адкрый нам простую дарогу з мора ў мора!

Гэта загаварылі рыбы, нямыя рыбы! Рыбы стукаліся ў берагі. Срэбныя натоўпы рыб плылі насустрач звярам.

## УЦЯЧЫ ЦІ НЕ?

Алёшку прывезлі не Мядзвежую гару. Тут быў лагер. А ў лагеры жылі былыя зладзеі і ранейшыя разбойнікі, нядаўныя шкоднікі і старыя буржуі, учарашнія хуліганы і іншыя ворагі совецкай краіны. Кругом стаяў лес. І хмурылася неба. Высіліся каменні. Было холадна. І не было вартавых. Але ўсюды ішла работа. Работа грымела ад мора да мора. Людзі шагалі з сякерамі ў лес. І лес даваў ім дарогу. Людзі ўзрывалі гранітныя скалы. І зямля, ахнуўшы, ляцела ў неба. Людзі капалі канал праз каменную гару, каб злучыць моры. Яны будавалі плаціны, каб вада не вылівалася на бакі.

„Не хачу працаваць, уцяку", падумаў Алёшка і паглядзеў кругом.—Бачыш, якія хітрыя вартаўнікі, схаваліся і не відаць іх. А як пабяжыш, дык, нябось, адразу з кустоў страляць пачнуць.

І, каб праверыць гэта, Алёшка пабег у лес. Ён бег і азіраўся. Але ніхто не даганяў яго. На яго ніхто і не глядзеў нават. Усе былі заняты сваёй работай. Алёшку стала нават крыўдна, што яго ніхто не затрымлівае, што ён нікому не патрэбен. Сумным ён вярнуўся ў лагер. Насустрач яму трапілася брыгада дзядзькі Беламора. Дзядзька раней сам быў вядомым разбойнікам. Ён грабіў параходы і спыняў цягнікі на-хаду. Але цяпер ён стаў ударнікам—новым чалавекам.

— Гэй, Разанскі! Ты чаму не працуеш?—запытаў у Алёшкі вусаты дзядзька Беламор.—Хто не працуе, той у нас атрымлівае ордэн мокрай курыцы.

— Ну і няхай! Не буду я працаваць,—сказаў Алёшка.—А чаму-ж гэта мяне ніхто не вартуе? Я-ж уцячы магу.

— Не ўцячэш! Цябе слова вартуе.

— Якое такое слова?

— Ленінскае.

— Я Леніну ніякага слова не даваў.

— За тое Ленін усім нам слова даў, што мы будзем шчаслівыя грамадзяне. Хіба ты не верыш Леніну? Хіба ты не хочаш быць шчаслівым?

Дзядзька Беламор расказаў, што ў яго брыгадзе 32 хлапцы, 32 каналаармейцы, 32 былых зладзеяў і бяспрытульнікаў. Яны раней таксама хацелі ўцякаць. А вось цяпер яны будуюць самую лепшую плаціну, іх усе паважаюць.

— Хадзем да нас, будзеш трыццаць трэці,—сказаў трыццаць другі ўдарнік дзядзькі Беламора, самы меншы.

— Не пайду,—хацеў сказаць Алёшка. Але хлапцы дзядзькі Беламора так горда глядзелі на Алёшку, што ён парашыў давесці ім, які ён, Алёшка, работнік.—„Ну і што-ж,—сказаў ён,—ну і пайду, у чым справа?" А сам падумаў: „я ім толькі давяду, каб яны не

---

*) Канец. Пачатак глядзі ў № 15.

выхваляліся сабою, а потым усёроўна ўцяку". І брыгада пайшла на плаціну. Яны спявалі песню ў 33 галасы;

Вось асілкі трыццаць тры
Ды злучаць пайшлі мары.
Усе хлопцы удалыя,
Брыгадзіры маладыя.
Іх вядзе на штурмы гор
Слаўны дзядзька Беламор.

„Цяпер я ім даведу, які я ёсць работнік",—сказаў Алёшка і мігам абчасаў вялікае бервяно. Але кожны з ударнікаў за гэты час паспеў абчасаць тры бервяны. „Ах, так,—сказаў Алёшка,—ладна... І ён абчасаў тры бервяны. Але за гэты час ударнікі абчасалі па дзевяць. Алёшка стараўся не адставаць ад работнікаў дзядзькі Беламора. Ён хацеў ім давесці, які ён, Алёшка, работнік, калі толькі захоча. На дзесяты дзень ён перагнаў таварышаў. І ўсе яго хвалілі. „Ай ды Разанскі",—казаў дзядзька Беламор, і напісаў пра гэта Чакісту—начальніку.

— Ну, цяпер давёў, можна і ўцякаць,—парашыў Алёшка, але ўцякаць чамусці расхацелася. Вельмі цікава было паглядзець, якая-ж выйдзе плаціна з яго бярвенняў.

А плаціна хутка расла, і Алёшку здавалася, што ён таксама расце разам з ёю. Працаваць было цяжка. Але-ж гэта было куды цікавей, чым кісельная плаціна і малочная гаць.



— *Ты чаму не працуеш?—запытаў у Алёшкі дзядзька Беламор.*

## ПЛАЦІНА ВЫРАТАВАНА

Жыў у лагеры дрэнны чалавек па прозвішчу грамадзянін Контрык. „Не хачу быць шчаслівым грамадзянінам, а сілай вы мяне ім не зробіце",—так разважаў Контрык і цэлымі днямі валяўся на ложку. Ён спяваў сумную песню пра старое жыццё і хроп на ўвесь лагер. Ён усё рабіў наперакор і біўся з таварышамі. Ён адмаўляўся ад работы. Ён быў „адмаўленец". Яго запісалі ў кавалеры мокрай курыцы.

Контрык хацеў уцякаць з лагера. Ён стаў падбухторваць Алёшку. Ён зваў яго ў цёплыя краіны. Але Алёшка і слухаць аб гэтым не хацеў. Тады Контрык вось што зрабіў.

У Алёшкі раз забалела галава. Контрык даў Алёшку панюхаць нейкі салодкі, п'яны парашок. Алёшка не ўстрымаўся, панюхаў і стаў п'яным. У яго закружылася галава і аслаблі ногі. Алёшка вельмі дрэнна працаваў у гэты дзень. Ён рабіў не тое, што трэба, ён лаяў дзядзьку Беламора, ён сапсаваў частку плаціны. Яго прасілі кінуць работу. Але ён не кідаў. Брыгада праз яго адстала ад другіх. І Алёшку прычапілі на грудзі ордэн мокрай курыцы. Калі Алёшка прачнуўся і ўбачыў гэты ганебны ордэн, ён заплакаў ад сораму і крыўды.

— Ага,—сказаў тады Контрык,—мы цяпер з табой таварышы. Няма чаго ганарыцца кавалеру мокрай курыцы. Няўжо-ж ты і пасля гэтага тут астанешся?

І Алёшка парашыў усім на злосць уцякаць. Яны ўцякалі ўночы. А ноч была чорная. Ноч была бурная. І вецер гнаў хвалі да няскончанай плаціны. Алёшка і Контрык ціханька прайшлі праз лагер. Алёшку захацелася ў апошні раз зірнуць на сваю плаціну, такую шырокую, такую высокую, такую прыгожую. І раптам ён заўважыў, што хвалі размылі, што бура разварушыла частку плаціны. Вада падымалася. Вада лезла, капала, тачыла, разбурала. Вада пагражала зусім перакуліць Алёшкаву плаціну.

— Прапруджвае!.. Прапруджвае!—закрычаў Алёшка.—Контрык, я не магу, я пабягу нашым сказаць, уцякай адзін, як хочаш! Ён палез у халодную ваду, ён рукамі, сінімі рукамі нашчупаў месца, дзе была размыта плаціна, вылез і пабег у лагер з крыкамі: „Прапруджвае! Прапруджвае!.."



*Ён пабег у лагер з крыкам: „Прапруджвае! Прапруджвае!“*

І хлопцы дзядзькі Беламора ўскочылі на ногі ўсе разам. І сам дзядзька Беламор, чыхнуўшы, прачнуўся. Ён прачнуўся і адразу адзеў шапку. У лагеры білі барабаны, па лагеры грымела трывога. Разгарнуліся сцягі. Зазіялі пражэктары. І ўдарылі аркестры.

Каналаармейцы пайшлі на штурм. Яны ішлі ратаваць плаціну. Вецер ішоў насустрач. Дождж ляцеў з ветру. Вада біла ў берагі. Наперадзе ўсіх шагаў дзядзька Беламор і трыццаць тры яго асілкі.

Усю ноч і ўвесь дзень працавалі ўдарнікі. Усю ноч і ўвесь дзень не сыходзіў з плаціны Алёшка. Ён прастудзіўся ў халоднай вадзе і кашляў. Каналаармейцы адагналі ваду ад плаціны. Яны загацілі дзіркі, і плаціна была выратавана.

І вось прышоў дзень, калі адчыніліся цяжкія вароты. Вада шуганула з плацін і пацякла па вялізарнай вадзяной лесвіцы. Моры злучыліся. З Балтыцкага мора прайшоў па канале першы параход. Ён падняўся па вадзяных усходках на гару і спусціўся потым да Белага мора. А насустрач яму ў Балтыцкае мора праплыла першая беламорская рыба.

Гэта было вялікае свята для ўсёй Совецкай краіны.

Чакіст запрасіў Мастачку паехаць ад мора да мора на параходзе. Яна дакляравала маляваць канал.

Параход спыніўся пасярод канала каля вялікай плаціны. Пасажыры сышлі на бераг. Раптам да Мастачкі падышоў нейкі малады акуратны рабочы.

— Добры дзень,—сказаў ён „не адважваючыся“.—Гэта я. Не пазнаіце? Былы Алёшка-Разань. Гэту плаціну я таксама рабіў... Выбачце мне. Колькі я вам павінен за тыя фарбы... якія я ў вас тады... гэта... узяў...

— Потым падлічышся,—засмяяўся Чакіст-начальнік.—А ну, дзядзька Беламор, пакажы, як твая плаціна працуе.

— Ёсць, таварыш начальнік,—адказваў дзядзька Беламор.—А ну, Алёшка, спыні раку!

Алёшка палез на плаціну. Алёшка павярнуў кола. І рака ў той-жа міг спынілася. Ракі як-бы і не было. Відаць было каменнае дно.

— А ну, Алёшка, пусці раку.

І Алёшка выпусціў раку на волю. Рака вырвалася і забурчала. Шуганулі вялізарныя вадаспады, ударылі фантаны, пырскі радугі вырываліся з-пад шчытоў плаціны. Сонца размалёўвала вадзяны пыл тысячамі фарбаў.

Загудзеў параход. Пасажыры пачалі спяшацца. Алёшка падышоў да начальніка—Чакіста.

— Таварыш начальнік!—сказаў Алёшка,—вось мы нядаўна таварышу Сталіну тэлеграму давалі, што канал скончаны і яго імем завецца. А вось мы забыліся тэлеграму паслаць заграніцу—швэдскаму і нарвэжскаму каралям. Вось я напісаў!

І Алёшка прачытаў сваю тэлеграму...

„Грамадзяне каралі і загадчыкі краінамі! Паведамляем вам, што вы цяпер жывіце не на паўвостраве, а на поўным востраве.

Ад брыгады Беламора былы паўчалавек, а цяпер поўны чалавек Аляксей-Разань—будаўнік плаціны № 3, чырвонасцяжнік“.

# ЯК ЖЫВУЦЬ зімою ЗВЯРЫ

Звяры рыхтуюцца да зімы па-рознаму і па-рознаму кожны з іх перажывае гэтую суровую пару года.



**ВАВЁРКА** — наш любімы звярок—жыве ў лесе, як рыба ў вадзе. Ежу ёй даюць лясныя дрэвы. Яна жывіцца жалудамі, арэхамі, зярнятамі яловых і сасновых шышак, ягадамі, грыбамі, маладымі галінкамі.

У лесе часта можна знайсці каля дрэва кучу разгрызеных шышак — гэта работа вавёркі.

Жыве вавёрка ў дупле вялікага старога дрэва ці ў старым гняздзе вароны. Пярэднімі лапкамі, як рукамі, яна будуе сабе гняздо з галінак, усцілае яго мохам і сухой травой.

На зіму вавёрка збірае сабе харчы ў запас. Яна складвае іх у дуплах старых дрэў, у старым гняздзе, у норках, у кучах каменняў. Грыбы вавёрка сушыць, начэплiваючы іх на сучкі дрэў.

Тоўстым пластом закрыў снег апаўшыя на зямлю дубовыя жалуды, арэхі і яловыя шышкі. У такі час вавёрка ляжыць, скруціўшыся ў клубок, у цёплай пасцелі, заткнуўшы выхад гнязда сухой травой. Густая шэрсць служыць ёй цёплай зімовай вопраткай.

**МЯДЗВЕДЗЬ** харчуецца пераважна раслінамі. З надыходам зімы ён знаходзіць сабе якую-небудзь нару, дупло ці вываратень старой елкі і робіць бярлогу. У бярлогу ён нацягвае сабе моху, травы, лісця.

Надыдуць халады — мядзведзь залазіць у гэту бярлогу, прыкрывае лапай сабе морду і засынае.

Халоднай марознай зімою спячка мядзведзя цягнецца тры-чатыры месяцы, у цёплыя зімы спіць ён менш.

У час адлігі мядзведзь выходзіць з бярлогі напіцца, але напіўшыся дзе-небудзь у раўчуку, ён зноў варочаецца ў бярлогу і засынае.

Густая шэрсць абараняе мядзведзя ад мароза ў час спячкі. Снег прыкрывае густым пластом бярлогу і яму там цёпла, нават праз адтуліну ідзе пара.

Жыве мядзведзь у час спячкі тою тлушчаю, што назапасіў летам.

**ЗАЯЦ.** Цяжка зімою нашаму „белячку“. Харчуецца ён расцярушанай канюшынай, абгрызае кару фруктовых дрэў, іх пупышкі. А спіць дзе-небудзь пад кусцікам.

